# ЗГОДА

ВЕРАСЕНЬ 1992

ГРАМАДСКА — ПАЛІТЫЧНАЯ ГАЗЕТА

КОШТ 2 РУБ.

N 2 (2)

ЧАСТКА ТЫРАЖУ — ПА СВАБОДНЫХ ЦЭНАХ

## НА ПАЛІТЫЧНЫМ ПАРНАСЕ. ПРЭМ'ЕРА РУБРЫКІ.

*«НУ, СЛОВАМ, МНОГА ТУТ НАРОДУ*
*САБРАЛАСЬ ЛЕЗЦІ НА ПАРНАС:*
*БЫЛІ ПАНЫ, БЫЛО І ЗБРОДУ,*
*ЯК ЧАСАМ І НА СВЕЦЕ Ў НАС"*

**ЯЎГЕН ЛУГІН:**

## Зямлі і Волі




Не цяжка здагадацца, што назва рубрыкі падказана знакамітай паэмай «Тарас на Парнасе». І ў тым мы бачым пэўны сэнс і пэўныя аналогіі, хаця наш Парнас не літаратурны, а палітычны. Існаваў ён на Беларусі і раней, але як наменклатурны. На яго не ўзыходзілі, а ўзносіліся (як і нізвяргаліся з яго) воляй вярхоўных багоў з маскоўскага Алімпу, ці воляй мясцовых бажкоў згодна жорсткай іерархіі падпарадкавання. Усё было чын чынам, ціха і прыстойна, аб папярэдніх патаемных інтрыгах і валтузні можна было толькі здагадвацца. Зараз сітуацыя мяняецца. Хаця людзі на суверэнным Парнасе ў мностве — знаемыя ўсё твары, але і новых нямала, і яшчэ больш у чарзе на вяршыню. Ну зусім па паэме: «*А пад гарой народу многа, як бы кірмаш які кішыць*».

Знаёмае па нашым быцці нагадаюць і тарасавы словы аб прэтэндэнтах на Парнас:

*«Гатоў адзін аднаго з'есць,*
*Бо кожны морду ўперад суець,*
*Каб першым на гару ўзлесць".*

Хто мае гумар — не пакрыўдзіцца. Такія яшчэ сёння мы. Але імкнемся стаць іншымі, імкнемся надаць адкрытай барацьбе палітычных сіл за месца на Парнасе — неабходнай умове дэмакратычнага ладу — цывілізаваны характар, паставіць яе ход і яе вынікі пад кантроль народа.

Дзеля гэтага задумана і рубрыка, у якой маем намер пазнаёміць чытача з лідэрамі і прадстаўнікамі розных палітычных сіл, іх поглядамі, іх імкненнямі, іх мэтамі.

*(Першы нарыс пад гэтай рубрыкай чытайце на 3-й стар.)*

## Паважаныя народныя абраннікі!

# Зварот

## Савета Партыі народнай згоды і Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады да народных дэпутатаў рэспублікі

Сацыяльна-эканамічная і палітычная сітуацыя, якая склалася ў рэспубліцы, патрабуе ад усіх палітычных сіл, органаў улады ўзважаных і разам з тым рашучых дзеянняў. Пры гэтым асаблівая адказнасць ляжыць на Вярхоўным Савеце, з якім на першым часе звязваліся вялікія надзеі на паспяховыя рэформы, і які зараз вінаваціць за імклівы рост цэн, рэзкае паніжэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва, пагрозу масавага беспрацоўя.

Пастаноўка пытання аб рэферэндуме і правядзенні датэрміновых выбараў Вярхоўнага Савета адлюстроўваюць менавіта гэтыя настроі людзей.

Рашэнне пытання аб уладзе праз рэферэндум Савет ПНЗ і Цэнтральная Рада БСДГ разглядаюць як неад"емнае дэмакратычнае права народа. Разам з тым мы ўлічваем і тую небяспеку, якую нясе яго правядзенне, аслабленне і без таго амаль паралізаванай сістэмы кіравання, узмацненне эканамічнай нестабільнасці, раскол грамадства, сацыяльныя канфлікты. Навідавоку, аднак, і неабходнасць рэфармавання структур дзяржаўнай улады, пачынаючы з перавыбараў Вярхоўнага Савета. Яго роля і уплыў у якасці вышэйшага заканадаўчага органа знізіліся амаль да нуля, яго раздзіраюць унутраныя супярэчнасці і барацьба палітычных груповак, якія да таго ж не маюць дакладна аформленага падзелу на партыйныя фракцыі.

Час, ход падзей, развіццё шматпартыйнасці апярэдзілі Вярхоўны Савет, сфарміраваны паводле старых канонаў. Што ж, так бывае ў пару імклівых сацыяльных змен. Справа ў тым, каб адрэагаваць на іх адэкватна інтарэсам народа, а не сваім асабістым і групавым палітычным амбіцыям.

Мы заклікаем вас, паважаныя дэпутаты, цвяроза ацаніць сітуацыю і прыняць адзіна правільнае рашэнне: на чарговай сесіі прыняць Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь, новы выбарчы закон, прызначыць дакладную дату правядзення новых выбараў. Гэта будзе пачэсны зыход парламента суверэннай Беларусі, які пры ўсіх акалічнасцях усё ж выканаў сваю місію першапраўадніка дэмакратычных пераўтварэнняў у складаных умовах сацыяльнай ломкі, пераходу грамадства з аднаго стану існавання ў другі. Гэтаму парламенту, гэтым дэпутатам гісторыя ўжо адвяла сваё месца.

Вярхоўны Савет павінен усвядоміць: калі ён не прыме новую Канстытуцыю і выбарчы закон, не прызначыць дату новых выбараў,яго чакае непазбежная адстаўка праз усенародны рэферэндум.

Вам, паважаныя дэпутаты, павінна хапіць дальнабачнасі і мужнасці своечасова сказаць: «Мы зрабілі ўсё, што маглі, няхай іншыя зробяць лепш». Гэта будзе адзіна правільны крок, які ў многім здыме небяспеку абвастрэння сацыяльнай і палітычнай сітуацыі, забяспечыць паступовы пераход да новай якасці ўлады, развіцця рэформ без страты стабільнасці ў грамадстве, створыць спрыяльныя ўмовы для фарміравання новага прафесійнага парламента на шматпартыйнай аснове.

Разам з тым такі зыход пакідае за кожным з вас, паважаныя дэпутаты, пачэсную магчымасць балаціравацца кандыдатамі ў склад новага парламента. Няхай людзі ацэняць словы і справы кожнага, назавуць найлепшых.

*Савет Партыі народнай згоды*

*Цэнтральная Рада Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады*

# КРИТЕРИЙ — СОГЛАСИЕ

**В повестку дня десятой сессии Верховного Совета Республики Беларусь двенадцатого созыва Комиссией по национальной политике и межнациональным отношениям внесен проект Закона Республики Беларусь «О национальных меньшинствах в Республике Беларусь» (второе чтение).**

**Сегодня мы публикуем основные положения проекта Закона. Надеемся, что читатели «Згоды» примут участие в обсуждении проекта, внесут свои предложения, замечания, поправки, которые, возможно, будут учтены при окончательном принятии Закона.**

ПРОЕКТ

# Закон Республики Беларусь

## о национальных меньшинствах

Закон «О национальных меньшинствах в Республике Беларусь» основан на принципах международного права в области прав человека и национальных меньшинств, Конституции Республики Беларусь, Декларации Верховного Совета Республики Беларусь «О государственном суверенитете Республики Беларусь», призван способствовать гармонизации национальных отношений в республике, утверждению в межнациональном общении взаимного уважения, сохранению и развитию культур национальных меньшинств в Республике Беларусь, удовлетворению их специфических интересов и гарантирует свободное развитие национальных меньшинств в Республике Беларусь.

Статья 1. К национальным меньшинствам Республики Беларусь принадлежат граждане Республики Беларусь, которые не являются белорусами по своему этническому или национальному происхождению, проявляют чувство национальной самоидентификации, общности между собой и солидаризируются с целью сохранения своего языка, культуры, традиций, обычаев.

Решение гражданина Республики Беларусь о принадлежности к национальному меньшинству является его личным свободным волеизъявлением, из которого не возникает для него никаких неблагоприятных последствий.

Статья 2. Граждане Республики Беларусь всех национальностей обязаны соблюдать Конституцию и законы Республики Беларусь, оберегать ее государственный суверенитет и территориальную целостность, уважать языки, культуру, традиции, религиозную самобытность национальных меньшинств.

Статья 3. Не допускается какое бы то ни было прямое или косвенное ограничение прав и свобод граждан Республики Беларусь по признакам национальной принадлежности, языка, оседлости, рода и характера занятий, отношению к религии, месту жительства, политическим убеждениям и другим обстоятельствам.

Граждане, принадлежащие к национальным меньшинствам, не могут подвергаться ассимиляции против своей воли.

Статья 4. Республика Беларусь принимает все необходимые меры для сохранения среды обитания национальных меньшинств в местах их традиционного расселения (содействует развитию их промыслов и занятий).

Статья 5. Каждый гражданин Республики Беларусь правомочен свободно указывать, вообще не указывать или в порядке, определенном законодательством Республики Беларусь, изменять запись о своей национальной принадлежности согласно своему желанию, основанному на национальном самосознании или национальном происхождении.

Никто ни при каких обстоятельствах не может требовать от гражданина Республики Беларусь указания его национальной принадлежности ни устно, ни документально.

Никто не может принуждаться к доказыванию своей национальной принадлежности или к отказу от нее.

Статья 6. Республика Беларусь, уважая права каждого человека, учитывая интересы всех национальных меньшинств, всем своим гражданам независимо от национального происхождения, национальной принадлежности, а также принадлежности к национальному меньшинству гарантирует:

а) равные политические, экономические и социальные права и свободы, признает преемственность культуры, поощряет проявление национального самосознания и самовыражения;

б) право на получение помощи со стороны государства в деле развития национальной культуры и образования;

в) право выбора любого языка в качестве родного, его изучения и пользования им;

г) право на печать и получение информации на родном языке;

д) право участия в деятельности международных неправительственных организаций;

е) право на установление культурных связей с соотечественниками за пределами Республики Беларусь;

ж) право исповедания любой религии, совершения национальных и ритуальных обрядов на родном языке;

з) право на сохранение и соблюдение своих национальных традиций (отмечать национальные праздники), развитие профессионального и самодеятельного искусства, использование национальной символики;

и) право на создание своих национальных культурных центров и обществ, объединений и ассоциаций;

к) право на представительство в органах государственной власти Республики Беларусь на основе всеобщих, равных и прямых выборов.

Статья 7. Граждане, принадлежащие к национальным меньшинствам, свободны в выборе объема и характера своей деятельности в рамках законодательства Республики Беларусь и реализуют свои права лично, а также через соответствующие органы государственной власти и управления и создаваемые национальные культурные центры, общества, объединения и ассоциации.

Статья 8. Центральным органом государственного управления в сфере межнациональных отношений является Комитет по делам национальностей при Совете Министров Республики Беларусь. При комитете создается Совет по национальным вопросам, который функционирует как совещательный орган на общественных началах. В состав совета входят представители республиканских национальных культурных центров, обществ, объединений и ассоциаций.

В местных Советах народных депутатов при необходимости действуют постоянные комиссии по вопросам межнациональных отношений, а в структурах исполнительных органов местных Советов — соответствующие подразделения.

При местных Советах народных депатутов могут создаваться и функционировать на общественных началах совещательные органы из представителей национальных меньшинств. Порядок формирования этих органов определяется соответствующими Советами народных депутатов.

Статья 9. Совет Министров Республики Беларусь содействует созданию материальных условий для развития образования, языка и культуры национальных меньшинств путем создания специального государственного фонда или предусмотрения для этого в государственном бюджете республики статьи расхода за счет средств, выделенных на образование и культуру.

Статья 10. Национальные культурные центры, общества, объединения и ассоциации национальных меньшинств имеют право осуществлять предпринимательскую деятельность в соответствии с законодательством Республики Беларусь.

Статья 11. Общественные и культурные организации национальных меньшинств могут создавать на собственные средства культурно-просветительные и национальные учебные заведения.

Статья 12. Памятники истории и культуры национальных меньшинств являются частью культуры белорусского народа и охраняются государством в соответствии с законодательством Республики Беларусь.

Статья 13. Граждане Республики Беларусь всех национальностей пользуются защитой государства на равных основаниях.

Любые действия, направленные на дискриминацию по национальным признакам, создание препятствий в реализации национальными меньшинствами своих прав, разжигание межнациональной вражды и розни, преследуются по закону.

# ЗА АДНАЎЛЕННЕ СПАДЧЫНЫ

Больш чым шэсць стагоддзяў жывуць яўрэі на беларускіх землях. За гэты час у іх жыцці было шмат гістарычных падзей, створана багатая і разнастайная культура.

Цяпер ужо не трэба нікому даказваць, што ў былым СССР, пачынаючы з 30-х гадоў нашага стагоддзя, праводзілася палітыка дзяржаўнага антысемітызму. У гэты перыяд груба фальсіфікавалася гісторыя яўрэяў, у тым ліку і на беларускіх землях. Тое, што не паспелі знішчыць з яўрэйскай культуры гітлераўскія захопнікі, знішчыла ў савецкая каманднa-адміністрацыйная сістэма, савецкі таталітарызм. Як кажуць, сваю руку прылажылі Сталін, Хрушчоў, Брэжнеў, Андропаў, Чарненка і нават Гарбачоў. Толькі адзін раз - у верасні 1991 года Гарбачоў асудзіў палітыку дзяржайнага антысемітызму у былым СССР.

Нельга не згадзіцца з наступнымі словамі пісьменніка Уладзіміра Мехава: «Услед за тым, што ў сталінскія часы скрозь закрыты былі яўрэйскія школы, ліквідаваны тэатры, музеі, іншыя асяродкі нацыянальнай культуры, у згаданыя дзесяцігоддзі (у апошнія дваццацьтрыццаць гадоў — Э.1.) быў выпрацаваны пастулат - пагартайце кнігі Бегуна, Яўсеева, Раманенкі, - што самой такой культуры не было і няма - яўрэйскай, няма такога народу - яўрэйскага. Ёсць, ну, этні чныя групы, які я так сябе называюць - яўрэямі - і якія звязаны паміж сабой зламысным процістаяннем усяму разнаколернаму і разнамойнаму людству.

У апошнія гады ў Рэспубліцы Беларусь створаны дзесяткі яўрэйскіх арганізацый. Адна з іх - фонд захавання яўрэйскай гістарычнай і культурнай спадчыны. Фонд паставіў перад сабой вельмі цяжкую, складаную, але высакародную задачу - захаваць, аднавіць і развіць гэту спадчыну, садзейнічаць аднаўленню і выхаванню яўрэйскай нацыянальна-культурнай самасвядомасці.

Трэба адзначыць, што за апошні час праўленне Фонда на чале з яго старшынёй А.М.Гальперыным, кандыдатам педагагічных навук, дацэнтам БДУ, паўкоўнікам правяло значную работу.

Варта зазначыць, што беларуская зямля дала свету не толькі Францыска Скарыну, Максіма Багдановіча, Янку Купалу, Якуба Коласа, Цішку Гартнага, Пятра Клімука і Уладзіміра Кавалёнка. Менавіта на гэтай зямлі нарадзіліся яўрэі, імёны якіх вядомы ў многіх краінах свету. Гэта ўраджэнец м.Капыль класік яўрэйскай літаратуры Мендэле Мойхер Сфорым, ураджэнец Віцебшчыны мастак Марк Шагал, паэт Ізі Харык з м.Зембін, сусветна вядомы пісьменнік Айзек Азімаў з в.Пятровічы Смалявіцкага раёна, дзяржаўныя дзеячы Ізраіля Хаім Вейцман, Эзер Вейцман, Голда Меір з Піншчыны, Менахем Бегін з Століна, Іцхак Шамір з-пад Ружан, Шымон Перас з Валожыншчыны. Фонд збірае звесткі аб такіх людзях.

Члены гістарычнай камісіі фонда рыхтуюць да выпуску некалькі кніг, у тым ліку «Кароткую гісторыю беларускіх яўрэяў», «Беларускія яўрэі-удзельнікі Вялікай Айчыннай вайны», даведнік «Яўрэйскія мясціны на Беларусі», збіраюць экспанаты для адкрыцця яўрэйскага гістарычнага музея. Заплан авана да друку манаграфія »Беларусь і яўрэі", якая павінна выйсці ў выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя» імя П.Броўкі, а таксама кніга «Мінскае гета (дакументы і матэрыялы)», якая рыхтуецца да выпуску ў ведавецтве «Беларусь».

Камісія па яўрэйскаму мастацтву пад кіраўніцтвам А.Ойстраха правяла цікавы вечар, прысвечаны жыццю і творчасці Марка Шагала, падрыхтавала выставы карцін многіх яўрэйскіх мастакоў, якія жылі і працавалі ў Беларусі.

Нямала цікавых спраў на ліку камісіі па архітэктуры і упарадкаванню яўрэйскіх могілак у розных гарадах, мястэчках і вёсках Беларусі на чале з Міхаілам Гаухфельдам.

Прадметам пастаяннай ўвагі Фонда з"яўляецца развіццё адукацыі, а таксама вывучэнне моладдзю моў ідыш і іўрыт. Фонд пашырае намаганні для адкрыцця ў Мінску яўрэйскай гімназіі імя Я.Корчака.

Важнай падзеяй у працы Фонда з"явіўся выпуск штомесячнай газеты «Авів» ("Вясна"), яе выдае Аб"яднанне яўрэйскіх арганізацый Рэспублікі Беларусь. Газета выдаецца на рускай мове, яе галоўны рэдактар Міхась Наруштэйн. З цікавымі артыкуламі ў гэтай газеце выступілі Леанід Левін, Аляксандр Гальперын і іншыя члены праўлення Фонда захавання гістарычнай і культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь. Друкуюцца ў газеце і аўтары іншых нацыянальнасцей. Сярод актыўных аўтараў - прафесар Уладзімір Семянюк, пісьменнікі Святлана Алексіевіч, Рыгор Барадулі н, Валянці н Тарас.

Члены праўлення Фонда вядуць таксама лекцыйную работу, выступаюць перад яўрэйскім насельніцтвам Мінска і рэспублікі, перад членамі Мінскага таварыства прыхільнікаў яўрэйскай культуры.

На адным з паседжанняўФонда акцэнтавалася ўвага на няспынны пошук праведнікаў - беларусаў, рускіх, палякаў і людзей іншых нацыянальнасцей, якія выратоўвалі яўрэяў ад смерці ў час фашысцкай акупацыі. Нядаўна стала вядома, што жыхары вёсак Парэчча і Святое Пухавіцкага раёна далі прытулак і выратавалі 40 яўрэйскіх дзяцей, якія збеглі з Мінскага гета. Сярод гэтых праведнікаў - жыхары вёскі Парэчча Анастасія Зіноўеўна Хурс, Пелагея Андрэеўна Шашок, Халімон Міхайлавіч Шашок, Фядора Зіноўеўна Шашок.

Шмат цікавых ідэй і слушных прапаноў уносяць члены праўлення Фонда Веніамін Мельцэр і Аркадзь Рудэрман, Давід Гурэвіч і Леанід Лёвін, Яўген Фарбераў і Алег Ойстрах.

Мы выступаем за цеснае супрацоўніцтва з іншымі нацыянальна-культурнымі аб"яднаннямі рэспублікі. Мы лічым, што культура - гэта з"ява інтэрнацыянальная. Адзін з дзейсных шляхоў узаемаразумення розных нацый на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь - гэта узаемаразуменне і добрае веданне гісторыі розных народаў, якія жылі і жывуць на беларускіх землях.

# ЯЎГЕН ЛУГІН: Зямлі і Волі



Напэўна, сялянская партыя ў Беларусі з''явілася б і без яго. Ідэя яе стварэння, як кажуць, лятала ў паветры. Бо калі ёсць людзі, у якіх - аднолькавыя мэты, погляды, імкненні, то яны аб''ядноўваюцца, каб грамадой вырашаць свае праблемы. Аб уласным кавалачку зямлі, аб вольнай хлебаробскай працы, свабоднай ад адміністрацыйнага дыктату, ад узаконенай дзяржавай «абдзіралаўкі» і ў нашай Беларусі марыць многія. Вось толькі здзейсніць тую мару ох, як няпроста! Гэта пацвердзіць кожны, хто спрабаваў атрымаць зямлю і волю і выслізнуць з абдымкаў «генералаў ад сельгасвытворчасці». Штошто, а сваю ўладу абараняць яны ўмеюць, напрактыкаваліся. Як кажуць, зубамі трымаюцца. Ды яшчэ і народ палохаюць: маўляў, разбурым калгасы і саўгасы - з голаду ногі працягнем.

Што ў такім разе застаецца рабіць іншадумцам? Толькі адно - аб''ядпацца.

Таму нараджэнне Беларускай сялянскай партыі - з''ява заканамерная. Раней ці паз ней жадаючыя стаць вольнымі хлебаробамі і ім спачуваючыя павінны былі згуртавацца ў палітычную арганізацыю, якая ставіць сваёй мэтай распрыгоньванне сялян.

Аднак у тым, что БСП нарадзілася 23 лютага 1991 года, а не месяцам ці годам пазней, ёсць прамы і немалы плён яе цяперашняга старшыні Яўгена Міхайлавіча Лугіна.

...Шэсць гадоў назад ён зняў пагоны падпалкоўніка Савецкай Арміі і стаў афіцэрам запасу. На здзіўленне многіх вайскоўцаў-паплечнікаў, у горадзе, як большасць з іх, не застаўся. Уладарна пацягнула да сябе зямля, сялянскія карані. Паехаў у родную вёску, пад Глуск, дзе жылі бацька з маці. Пабудаваў дом. А потым знайшоў яшчэ чатырох аднадумцаў, якія паверылі, як і ён сам, у сур''ёзнасць гарбачоўскіх абяцанняў зрабіць сельскую гаспадарку шматукладнай, і накіраваўся ў райвыканкам, каб зарэгістраваць першы ў раёне сельгаскааператыў.

Што было далей - няцяжка здагадацца. Амаль два гады Лугін знаходзіўся ў ролі футбольнага мяча, які ганялі ад варот праўлення калгаса да варот райвыканкама і назад.

«Зарэгіструем, калі калгас дасць згоду быць вашым гарантам, - казалі ў выканкаме. »Зямлю дадзім, але гарантам быць не згодны", - адказвалі ў праўленні. А калі кааператыў усё ж з вялікай цяжкасцю быў зарэгістраваны, калгасны старшыня з усмешкай у голасе паведаміў: «Мы тут паглядзелі ... і, ведаеце, свабоднай зямлі ў нас зараз і паўгектара не знойдзецца. Прабачце, але ...»

Лугін зноў кінуўся ў раён. А там таксама развялі рукамі: «Нічога не можам зрабіць. На няма і суда няма...»

Ведай мясцовыя кіраўнікі, у што выльецца іх адмова, - абявязкова «нарэзалі» б былому вайскоўцу і яго паплечнікам кавалак зямлі. Як кажуць, ад граха далей...

Яны, аднак, адмахнуліся ад Лугіна, бы ад надаелай мухі. І, атрымалася, тым самым выпусцілі з бутэлькі джына...

*З размовы з Яўгенам Лугіным*

- Спачатку я палічыў, што толькі ў нас у Глуску такія кіраўнікі. Але калі пабываў у суседніх раёнах, зразумеў: гэта паўсюдная лінія. Такім, як я, ходу не было нідзе. І ў мяне нарадзілася думка: стварыць партыю, якая б абараняла інтарэсы гэтых людзей.

На ажыццяўленне сваёй ідэі яму спатрэбіўся год. 23 лютага 1991 года адзначыў адразу тры святы: Дзень Савецкай Арміі, якой аддаў больш чвэрці века, уласны дзень нараджэння і, нарэшце, дзень нараджэння Беларускай сялянскай партыі. 131 дэлегат аднадушна выказаўся на ўстаноўчым з''ездзе за стварэнне БСП. Яшчэ праз паўтары месяцы яна, нягледзячы на ўсе заганы з боку кіруючай тады яшчэ Кампартыі, была афіцыйна зарэгістравана. Старшынёй БСП стаў Яўген Лугін.

Чаму менавіта ён, чалавек, здавалася б, далёкі ад сельскай гаспадаркі, былы вайсковец, стаў на чале сялянскай партыі?

*З размовы з Я. Лугіным*

- Да «портфеля» старшыні партыі я, кажу гэта шчыра, не ірваўся. Больш таго, разумеў - для справы будзе лепш, калі БСП узначаліць чалавек, аўтарытэтны ў сельскай гаспадарцы. Таму на з''ездзе выказаў асабістае пажаданне, каб старшынёй абралі акадэміка Івана Мікалаевіча Нікітчанку, які тады з''яўляўся кіраўніком заходняга рэгіянальнага аддзялення ВАСХНІЛ СССР. Але ён, спаслаўшыся на навуковую працу, адмовіўся. Тады дэлегаты прагаласавалі за мяне.

І усё ж - чаму Лугін?

Немалую ролю ў гэтым, здаецца, якраз і адыграла тое, што ён - учарашні кадравы вайсковец. Мэтанакіраваны, надзелены някепскімі арганізатарскімі здольнасцямі, уменнем пераконваць (бо ў войску быў палітработнікам), з добрым пачуццём адказнасці. Вырашыўшы стварыць арганізацыю, якая б абараняла інтарэсы сялянства, Лугін цалкам аддаўся гэтай мэце. Нават на асабісты дабрабыт махнуў рукой. Не пайшоў працаваць, каб не звязваць сябе да часу. Карыстаючыся сваёй адноснай свабодай, вайсковы пенсіянер, бы чаўнок, снаваў па рэспубліцы. На гэта, дарэчы, разыходзілася амаль уся лугінская пенсія. Сустракаўся з людзьмі, гутарыў, слухаў, спрачаўся, пераконваў, а, галоўнае, шукаў той падмурак, на якім можна было збудаваць партыю. Між іншым, праявіў якасці нядрэннага палітыка, гатовага дзеля справы на кампрамісы, пагадненні. Гэта бачылі людзі, гэта, урэшце рэшт, прынесла неблагі плён. Зараз у сялянскай партыі - звыш 6 тысяч членаў, яшчэ больш - спачуваючых. Партыйныя арганізацыі дзейнічаюць ужо амаль у двух дзесятках раёнаў Беларусі, і колькасць іх даволі хутка расце. Наладжаны сувязі с Польскай сялянскай партыяй. З яе дапамогай да заходніх суседзяў паехала вучыцца і пераймаць вопыт гаспадарання група беларускіх фермераў. БСП стала членам Кангрэса цэнтрысцкіх і селянскіх партый Еўропы.

Энергіі Лугіна можна пазайздросціць.

Ён не з тых, хто спачывае на лаўрах. Тыдзень страціў аўтар гэтых радкоў, пакуль удалося «адлавіць» старшыню БСП і дамовіцца з ім аб сустрэчы. «Яўген Міхайлавіч у Глуску, дапамагае рыхтаваць раённую партыйную канферэнцыю». «Учора быў, але сёння з ранку паехаў у Асіповічы па сваіх партыйных справах...», - адказвала па телефоне жонка Лугіна. Голас гаспадара давялося пачуць толькі з пятай спробы...

*З размовы з Я.Лугіным*

- Нашу партыю нярэдка спрабуюць прадставіць як зацятага ворага калгасаў. Але ж гэта не так. Сапраўды, мы лічым, што будучае - не за імі. Наш ідэал - фермерскія гаспадаркі, свабодныя аб''яднанні сялян. Аднак гэта не азначае, што БСП выступае за тое, каб як найхутчэй разагнаць калгасы. Мы за эвалюцыйны шлях, без кампанейшчыны і паспешлівасці. Хай будуць фермы, а побач з імі - калгасы і саўгасы. У ходзе ажыццяўлення зямельнай рэформы яны - гэта мае глыбокае пераканание - пачнуць пераўтварацца ў асацыяцыі фермерскіх і кааператыўных гаспадарак, акцыянерныя таварыствы, народныя прадпрыемствы і гэтак далей. Гэты працэс не трэба штучна падштурхоўваць, усё павінна ісці ад саміх сялян. Іх жаданняў. Няхай эфектыўнасць тых ці іншых форм гаспадарання вызначае само жыццё.

Прынцыпова важным, аднак, Лугін лічыць вяртанне сялянству права прыватнай уласнасці на зямлю. «Нам, - кажа ён, - навязваюць зараз калектыўную ўласнасць. Партыя выступае супраць яе. Зямлі патрэбен прыватны ўласнік, толькі ў такім выпадку яна прыдбае гаспадара, а дзяржава - кармілыца.

На пераходны перыяд Лугіну бачыцца такая схема. У прыватную ўласнасць перадаюцца ўсе прысядзібныя, садовыя, агародныя ўчасткі. Астатнія землі пераходзяць ва уласнасць дзяржавы, якая на роўных умовах здае іх у арэнду калгасам, саўгасам, фермерам, кааператывам, асацыяцыям, малым прадпрыемствам і г.д. А праз нейкі час, напрыклад, праз пяць год, калі стане відавочна, хто як гаспадарыць на зямлі, пачаць яе продаж і ў прыватную ўласнасць. Тым, зразумела, хто паказаў сябе сапраўдным гаспадаром. Працаўнікі калгасаў і саўгасаў пры гэтым павінны мець права свабоднага выхаду з іх з паем зямлі і доляй маёмасці. Такі погляд Лугіна і яго аднадумцаў па партыі на зямельную рэформу. Акрамя прызнання двух форм уласнасці на зямлю - дзяржаўнай і прыватнай, яны патрабуюць ліквідаваць каманднаадміністрацыйную сістэму кіравання сельскай гаспадаркай - неабходныя структуры сяляне створаць самі, знізу, а таксама забараніць дзяржаве, раз і назаўсёды, умешвацца ў справы вытворцаў.

Ідэі сялянскай партыі знаходзяць усё больш шырокую падтрымку. На восеньскую сесію беларускага парламента БСП мае намер унесці свае прапановы па зямельнай рэформе. Зараз Лугін выкарыстоўвае ўсё сваё дыпламатычнае майстэрства, каб перацягнуць на свой бок як мага больш саюзнікаў. І не без поспеху. Падтрымаць «сялян» ужо згадзіліся прафсаюзы, шэраг партый і грамадскіх аб''яднанняў. У іх ліку ПНЗ, АДП, БСДГ ("Грамада"), НДП і іншыя.

Лугін спадзяецца, што да чарговай сесіі спіс яшчэ пашырыцца. А вось з БНФ - найбольш уплывовай апазіцыйнай сілай у рэспубліцы, - адносіны ў сялянскай партыі, як сказаў яе старшыня, «не вельмі атрымоўваюцца, хоць у падыходах да зямельнай рэформы у нас шмат агульнага». На думку Лугіна, у БНФ занадта ўжо вялікія радыкалы, да таго ж апанаваныя маніяй велічы, яны не церпяць ніякага іншадумства, дазваляюць сабе з пагардай ставіцца да невялікіх партый, жадаюць цалкам падначаліць сабе ўсе сілы, якія знаходзяцца ў апазіцыі Вярхоўнаму Савету. Улічвае Лугін і тое, што на сяле ў БНФ няшмат прыхільнікаў.

Вось чаму, калі нядаўна лідэры БНФ звярнуліся да БСП з прапановай падтрымаць распрацаваную імі перадвыбарную платформу, Рада сялянскай партыі адмовілася.

Але Лугін, відаць, не быў бы Лугіным, калі б зараз жа не дадаў - «пакуль . А потым пабачым ...» Ён манеўруе, шукае саюзнікаў, аналізуе. Ён разумее, што за ім - дастаткова рэальная сіла, рады якой растуць, што за гэтую сілу будзе абявязкова ісці барацьба і перад рэферэндумам, і перад маючымі адбыцца выбарамі. А, значыць, у БСП з''яўляюцца шырокія магчымасці для манеўра, для пагадненняў з іншымі партыямі. І яе лідэр стараецца, як кажуць, на ўсе сто выкарыстаць гэтыя магчымасці. Да якога берага у рэшце рэшт прыстане «карабель» БСП? Беларускія сяляне заўжды былі няспешнымі і разважлівымі пры прыняцці рашэнняў, вызначаліся вядомым кансерватызмам. Гэтыя якасці прысутнічаюць, здаецца, і ў характары старшыні сялянскай партыі. Ужо відавочна, што яна робіць, і таму няцяжка прадказаць выбар на карысць цэнтра.

*З размовы з Я.Лугіным*

- Яўген Міхайлавіч, справы могуць скласціся так, што, дзякуючы сваей цяперашняй пасадзе, вы на наступных выбарах атрымаеце дэпутацкі мандат. Бо, хутчэй за ўсе, яны будуць праводзіцца па партыйных спісах, а вы - старшыня сялянскай партыі.

- Раней аб такой магчымасці не думаў. Цяпер думаю. Што ж, калі выберуць дэпутатам, буду старацца сумленна рабіць сваю дэпутацкую справу. І перш за ўсе - абараняць інтарэсы сялян, усіх сваіх выбаршчыкаў. Але паверце - зусім не дзеля дэпутацкага мандату два гады назад я пачаў ствараць партыю. Другое кіравала мной, ды і сёння кіруе. Памятаеце радкі са славутай паэмы Якуба Коласа: «Купіць зямлі, прыдбаць свой кут..?» У гэтых словах як найлепш выказана векавечная мара беларускага сялянства. Зараз з''явілася надзея што яе, нарэшце, можна будзе ажыццявіць.

Дзеля гэтага і працую...

...Палітыка, кажуць, псуе людзей. Вельмі не хацелася б, каб гэта спраўдзілася ў адносінах да Яўгена Лугіна. Пачаў ён, здаецца, няблага. Ну, а якім будзе яго далейшы палітычны лёс - пабачым...

Валерый КАВАЛЕЎ, «Згода».

---

Пазнаючы культуру кожнага народа, мы садзейнічаем яго збліжэнню з другімі народамі. У першую чаргу я маю на ўвазе зблiжэнне і ўзаемаразуменне беларусаў і яўрэяў, якія жывуць на тэрыторыі Рэспублікі Беларусь.

Класік беларускай літаратуры Змітрок Бядуля (Самуіл Яфімавіч Плаўнік) ў 1918 годзе пісаў: «За ўвесь час сумеснага жыцця беларусаў і яўрэяў на беларускай зямлі гэтыя дзве нацыі псіхічна шмат пераняли адна ў адной. У мовах, звычаях, у легендах, у будаўніцтве, у будзённым жыцці - у іх формы так перамяшаліся, што прынялі новую самабытную акраску.

Ёсць агульныя яўрэйска-беларускія народныя мелодыі, прыказкі,дзе яўрэйская і беларуская мовы перамешаны паміж сабой. У беларускай мове ёсць словы: «хаўрус», «хэўра», «бахур», «адхаіць» і шмат іншых - чыста яўрэйскіх слоў. У яўрэйскай мове беларускіх слоў ёсць тым болей...".

З.Бядуля пісаў аб зборніку яўрэйска-беларускіх прыказак, які быў выданы за мяжой, аб неабходнасці даследвання яўрэйска-беларускай этнаграфіі. З таго часу прайшло больш васьмідзесяці гадой, а ў гэтым напрамку робяцца толькі першыя крокі.

Наш Фонд не палітычная арганізацыя, але мы лічым неабходным выказацца за кансалідацыю ўсіх дэмакратычных сіл у Беларусі, за стабільную палітычную абстаноўку. Менавіта такая кансалідацыя будзе садзейнічаць захаванню гістарычнай і культурнай спадчыны ўсіх народаў, якія насяляюць нашу незалежную краіну.

Эмануіл Рыгоравіч **ЮФЕ**, старшыня гістарычнай камісіі Фонда захавання яўрэйскай гістарычнай і культурнай спадчыны Рэспублікі Беларусь.

---

# «НЕ ЛЮДЯМ, А ВЛАСТЯМ Я ПРЕДЪЯВЛЯЮ СВОЙ ГРАЖДАНСКИЙ ИСК»



*Александр Давидович Майснер возглавляет общество немцев Республики Беларусь. Организация ставит задачу объединить этнических немцев, проживающих в республике, расширить их знания по истории, культуре и языку Германии. С Александром Майснером беседует наш корреспондент Валерий Алешко.*

КОРР. Александр Давидович, что лежит в основе жестокого и многолетнего отношения властей к судьбам немцев в СССР? Низкая культура общества или предрасположенность к несправедливости тоталитарного государства?

А.Д. Я полагаю, что место имеет и то, и другое. Но больше претензий у меня к властным структурам. России на протяжении последних десятилетий просто не везло на руководителя. Вспомним, кто нами правил. В сталинский период, в послесталинский?

В иных ситуациях, даже имея от природы относительно нормальные задатки, руководители страны не могли их реализовать в силу давлеющей над ними господствующей догмы или утопии, которая была взята ими на вооружение. Потому что она была для них удобной.

КОРР. Этим вы хотите подчеркнуть элемент эгоизма чиновничьего аппарата?

А.Д. Совершенно верно. Я считаю, что в основе всех наших бывших и нынешних бед лежит эгоизм: личностный, идеологический, имперский. Именно изначальная замкнутость на себе явилась причиной оголтелого сопротивления восстановлению Немецкой республики на Волге, двойственной или тройственной политики вначале в Прибалтике, затем в других регионах. А вот теперь события, основанные все на том же эгоизме, угрожают целостности самой цитадели эгоцентризма — России. Иначе и быть не могло. Где нарушается равновесие добра, где нет справедливости, там хорошо не будет никому.

Что же касается простых людей, то я хочу привести лишь один пример, свидетельствующий об их исходном нравственном здоровье. Когда, после выселения с Волги, то и дело перебрасывали нас с места на место уже в пределах Сибири, то местные жители неизменно провожали нас всем селением со слезами прощания. И это во время войны! Войны с немцами! Когда идеологические стряпчие уже сформировали, как им казалось, в умах людей образ «среднего» немца. Когда на головы простых людей и в самом деле сыпались похоронки на отца, сына, действительно убитых на войне, немцами... Вот каким величием духа обладает простой народ, несмотря на изощренность методов оболванивания, изобретенных порочной системой. Вот почему не людям, а властям, призванным вместо зла утверждать добро, я предъявляю свой гражданский иск.

КОРР. Александр Давидович, как выглядит проблема немцев в Беларуси? Какова история появления немцев в республике? Много ли вас? И каков прогноз на перспективу?

(окончание на 4 стр.)

